ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!



DIEVS, SVETI LATVIJU!

# ГОЛАС БЕЛАРУСА

№2 травень 1989 г. ≡ выходзіць з 1925 года ((з перапынкам))

ГРАМАДЗКА-КУЛЬТУРНАЕ ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА КУЛЬТУРЫ «СЬВІТАНАК» МЕСТА РЫГА



## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ РАДЫ

19 КАСТРЫЧНІКА РАСШЫРАНАЕ ПАСЯДЖЭНЬНЕ РАДЫ БКТ "СЬВІТАНАК" ВЫРАШАЛА УВАЙСЬЦІ У КАНФЭДЭРАЦЫЮ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК /КБС/.

/КБС з'яўляецца аддзелам Беларускага Народнага Фронту, а Каардынацыйная рада КБС --Радай упаўнаважаных маладзёжных групаў падтрымкі Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"/

## БЕЛАРУСЫ У НЕЗАЛЕЖНАЙ ЛАТВІІ *) 1928 Г.

НЕКОЛЬКІ СЛОЎ АБ БЕЛАРУСАХ НАОГУЛ.

Усяго беларусаў на сьвеце каля 12.000.000 чалавек. Пераважная большасьць з гэтае лічбы жыве на сваёй бацькоўшчыне, Беларусі, якая ахоплівае аграмадны прастор у 300.000 квадратовых кілёмэтраў і складаецца з былых расійскіх губэрняў: Менскай, Магілёўскай, Гародзенскай і частак губэрняў Віцебскай, Віленскай, Смаленскай, Чарнігаўскай і Пс코ўскай /Апочка і Вялікія Лукі/. Каля 600.000 чалавек з вышэй паказанай лічбы беларусаў самахоць выселілася да Усясьветнай вайны ў Амэрыку і Сібір каб атрымаць тамака кавалак зямлі, або працу, а яшчэ больш беларусаў было прымусова выселена з Беларусі царскай уладай у часе вайны. У 1915 годзе блізка што каля 1.500.000 беларускіх сялян было сагнана са сваіх гаспадарак у Гародзеншчыне, Меншчыне ды Віленшчыне і накіравана ў Туркестан, у Сібір і на Мурман.

*) Нарыс гэты зьяўляецца кароткім выняткам з кнігі К. Езавітава "Беларусы ў Латвіі".

Ня гледзячы на неспакойныя і цяжкія варункі нацыянальна-дзяржаўнага жыцьця Беларусі ў мінулым, беларуская культура заўсёды стаяла на высокай ступені. Даволі сказаць, што друкаваньне кніжок на Беларусі зьявілася ўжо ў 1525 годзе, г.ё. праз 85 гадоў насьля таго, як Гутэнберг прыдумаў кнігадрук. У Маскоўшчыне кнігадрук зьявіўся пазьней за Беларусь на паўстагодзьдзя, а таму маскоўцы, якія цяпера ка часта-густа ганьбяць беларусаў, самі чэрпалі культуру з беларускіх крыніц і доўгі час выхоўваліся ў ёй, атрымліваючы з Беларусі кнігі. Наскολькі высока стаяла беларуская культура відаць і з таго, што беларуская біблія Ф. Скарыны паявілася трэцяй у сьвеце /першая-нямецкая, другая - чэская/, а Беларускі Статут Законаў і да гэтага часу лічыцца адным з лепшых.

Два народы, палякі з захаду і маскоўцы з усходу, увесь час рабілі напады на Беларусь, дамагаючыся палпарадкаваць яе сваім уплывам. Маскоўцам пашанцавала больш чым палякам і яны гадоў 150 трымалі беларусаў у сваіх руках. Аднак, ні прымусы, ні забарона беларускіх кніжак, газэт, казаньняў у касьцёле і царкве, ні арышты, суды і ссылкі ў Сібір беларускіх дзеячоў і паэтаў,- ня здолелі зьнішчыць беларускага народу і не пагасілі ў ім імкненьня да сваей нацыянальнай культуры і дзяржаўнасьці.

Пасьля расійскай рэвалюцыі 1917 году, беларусы пачалі дамагацца сваей дзяржаўнасьці. У сьнежню 1917 году беларусы склікалі свой Установчы сойм, Першы Усебеларускі Кангрэс, які абвесьціў Беларусь рэспублікай у фэдэрацыі з Масковіяй, Украінай і іншымі старонкамі былой Расеі, а затым 25 сакавіка 1918 году Рада Беларускае Народнае Рэспублікі абвесьціла Беларусь незалежнай дзяржавай і выбрала сабе Урад

Першы Урад Беларускай Народнай Рэспублікі ня змог утрымаць уладу на Беларусі ў сваіх руках і змушаны быў эміграваць за-межы,- але беларускія селяне і рабочыя і студзеня 1919 году абвесьцілі новы Урад Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Гэты Урад таксама не адразу ўмацаваўся, і ў яго было шмат няўдачаў і зьменаў, аднак беларускія працоўныя массы прыйшлі яму на дапамогу і Урад гэты існуе да гэтага часу.

БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТНАЕ ТАВАРЫСТВА "БЕЛАРУСКАЯ ХАТА".

Таварыства залажылася 20 сьнежня 1924 году ў Рызе і павяло сваю працу спачатку сярод беларускага жыхарства на Маскоўскім Фарштаце, а затым у 1925 годзе перанясло сваю дзейнасьць на Чырвоную Дзьвіну. Тутака, на Сымаоўскай вуліцы № 14/16, у доме "Праводніка", Т-ва зрабіла капітальны рамонт, арганізавала прыватную беларускую школу, якую потым узяў на сваю ўтрыманьне мястовы самаўрад г. Рыгі, наладзіла добрую сцэну, пабудавала залю і палажыла моцны грунт для новага беларускагаася родку ў Рызе.

Цяперака ў 4-х павярховым будынку, адрамантаваным Т-вам "Беларуская Хата", працуюць гэткія беларускія установы: Дзяржаўныя беларускія 2-х гадовыя настаўніцкія курсы з інтэрнатам пры іх, 2-я Рыская мястовая 6-ці кля совая беларуская школа, Рыская прыватная дадатковая вячэрняя школа для дарослых, утрымоўваемая "Т-вам беларускіх вучцялёў", і, на рэшце, тамака-ж распачала сваю працу драматычная студыя "Т-ва Беларускага Тэатру".

Залю Т-ва карыстаюцца ня толькі беларусы, але дужа часта ў ёй ставяць свае вечарыны рожныя арганізацыі іншых нацыянальнасьцяў.

Сябрамі Т-ва зьяўляюцца, пераважна, беларускія рабочыя з рожных фабрык і заводаў Чырвонай Дзьвіны і Мюльграбена. Кіраўніча-арганізацыйная праца ў Т-ве ляжыць на вучцялёх вышэй памянёных беларускіх школ, што месьцяцца ў будынку Т-ва.

БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРНА-ПРАСЬВЕТНАЕ ТАВАРЫСТВА "ПРАСЬВЕТА".

Таварыства заснавалась 28 ліпеня 1926 году з мэтаю пашырэньня і падтрыманьня асьветы сярод беларускага жыхарства ў Латвіі. За час свайго існаваньня Т-вам былі наладжаны спэктаклі: ў г. Дзьвінску і ў Дзьвінскім павеце /Пустынь і Прыдруйск/, грашовая латарэя, Вячэрнія Курсы для дарослых у г. Дзьвінску. У 1927 годзе Т-ва мае 142 сябры.

БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРНА-ПРАСЬВЕТНАЕ ТАВАРЫСТВА "РУНЬ".

Т-ва заснавана 19 сакавіка 1924 году.

БЕЛАРУСКАЕ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЕ ТАВАРЫСТВА "АРАТАЙ".

Таварыства заснавалась ў верасьні 1927 году з мэтаю дапамагчы беларускаму грамадзянству Латвіі ў сельска-гаспадарчых справах.

БЕЛАРУСКАЕ ЦЭНТРАЛЬНАЕ ПАЗЫЧНОВА-ЗЬБЕРАГАЛЬНАЕ ТАВАРЫСТВА Ў ЛАТВІІ.

Таварыства існуе з 1-га лістападу 1925 г. Лік сяброў 45. Балянс за 1926 год 8505,50.

БЕЛАРУСКІ ПРАСЬВЕТНЫ КААПЭРАТЫЎ "КУЛЬТУРА І ПРАЦА".

Каапэратыў заснаваўся 29 лістападу 1927 г. з мэтаю дапамагчы беларускаму жыхарству Латвіі ў набыцьці кніжак, пісьменых прыладаў, мастацкіх вытвараў і г.д.

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРУ Ў ЛАТВІІ.

Пачынаючы з летку 1921 году, беларусы ў Латвіі пачалі рыхтавацца да адчыненьня свайго беларускага тэатру.

Улетку зазначанага году ў Дзьвінску пры т-ве "Бацькаўшчына" арганізавалася беларуская вандроўная трупа пад кіраўніцтвам С. Залускага, якая з вялікім посьпехам ставіла спэктаклі ў Дзьвінску, Рэжыцы, Краславе і Бароўцы. Дзякуючы таму, што прыватная беларуская трупа ня была ў свой час падтрымана, яна ў канцы 1921 году з-за недахопу сродкаў спыніла сваю дзейнасьць.

Замест гэтае трупы ўвясну 1922 году ў Дзьвінску пачаў працаваць новы драматычны гурток пад кіраўніцтвам Я. Камаржынскага і Э.Будзько. Гэта трупа зрабіла шмат пастановак у памешканьні Латгальскага Хаўрусу "Саўле", у Дзьвінскім мястовым клюбе, а таксама выяжджала на вёскі і ў мястэчкі.

У 1923 годзе беларускія драматычныя гурткі працавалі ня толькі у Дзьвінску, але і ў Люцыну, Рызе і на вёсках Люцыншчыны і Дзьвіншчыны. Зьявілася неабходнасьць ў заўсёдным беларускім тэатру, каб аб'еднаць ўсе беларускія артыстычныя сілы, а таксама каб падрыхтаваць новых артыстаў і вясковых рэжысёраў.

У 1926 годзе беларусам удалося набыць не вялікае тэатральнае памешканьне ў Рызе на Чырвонай Дзьвіне, Сымонаўскай вул. № 14/16, гдзе пачалі ставіцца беларускія спэктаклі.

У пачатку 1927 году зьявілася ўжо магчымым адчыніць у Рызе "Таварыства беларускага тэатру ў Латвіі". Гэтае таварыства атрымала вызнаньне Беларускага Аддзелу і дапамогу ад Культурнага Фонду, дзякуючы якой і разьвярнула сваю працу.

## БЕЛАРУСКАЯ ПРЭСА У ЛАТВІІ

У 1926 і 1927 гадох, а таксама часткова і ў 1925 годзе, у Латвіі працавалі гэткія пэрыядычныя выданьні:

"ГОЛАС БЕЛАРУСА" — тыднёвая беларуская сялянска-работніцкая газэта, пад рэдакцыяй К. Б. Езавітава. Існуе з 1925 году

"БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ"— Педагогічна-грамадзкі штомесячнік, пад рэдакцыяй К. Б. Езавітава. Існуе з 1926 году.

"ШКОЛЬНАЯ ПРАЦА"— вучнёўскі штомесячнік Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае гімназіі, пад рэдакцыяй дырэктара гімназіі С. П. Сахарава.

"ГАСПАДАР"— Сельска-гаспадарчы штомесячнік, пад рэдакцыяй Я. А. Шчорса. Існуе з 1926 году

"НА ЧУЖЫНЕ"— часопіс пад рэдакцыяй Г. Казачага. Вышла ў Рызе ў 1920 годзе.

"ЛАСТАУКА"— вучнёўскі штомесячнік, выдаваўся ў 1923 і 1924 гадох вучнямі Люцынскай беларускай гімназіі, пад рэдакцыяй дырэктара гімназіі К. Езавітава.

СЬПІС БЕЛАРУСКІХ ШКОЛ І НАСТАЎНІЦТВА У 1927-28 НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ.

Дзьвінскі павет.

1. НЭЎЛЯНСКАЯ - Габран Моніка.
2. МАЙШЭЛЬСКАЯ - Багінская Клара.
3. ПЛЕЙКАЎСКАЯ - Вальтэр Віктар.
4. КАРКЛІНАЎСКАЯ - Мадзелеўская Вольга, Розэнбэрг Марта.
5. КРУМАНАЎСКАЯ - Красьневіч Станіслаў.
6. ПРЫДРУЙСКАЯ - Дубавік Канстанцін, Дубавік Марыя, Мэжак Андрэй.

/працяг на стар.5/

Нацыянальны склад ЛатвII згодна трох перапI саў.

| Нацыянальнасьць: | ЛIчэбныя данныя згодна перапIсаў: | | |
|---|---|---|---|
| | I0лютага 1897 г. | I4 чэрвеня I920 г. | I0лютага I925 г. |
| ЛатышI.......... | I.3I6.I69 | I.I6I.404 | I.354.I26 |
| Маскоўцы........ | I52.68I | I24.746 | I93.648 |
| Беларусы........ | 8I.986 | 75.630 | 38.0I0 |
| Немцы........... | I36.552 | 58.II3 | 70.964 |
| Жыды............ | II9.569 | 79.644 | 95. 675 |
| ПалякI.......... | 62.700 | 54.567 | 5I.I43 |
| ЛIтвIны......... | 25.3I5 | 25.588 | 23.I92 |
| Эстонцы......... | I7.700 | 8.769 | 7.893 |
| Iншыя........... | 6.486 | 3.84I | 7.6I2 |
| Невядомае нацыянальнасьцI. | I.349 | 3.829 | 2542 |
| Разам........ | I.929.387 | I.596.I3I | I.844.805 |

## ЗНАЕМЦЕСЯ: "ТУТЭЙШЫЯ".

"Тутэйшыя" ўтварылIся ў 1987 годзе як нефармалы. Зараз гэта таварыства маладых лIтаратараў пры Саюзе пIсьменьнIкаў БеларусI.

Тутэйшаўцаў аб'ядноўвае агульны клопат аб беларускай мове, справа прэстыжу нашае мовы I лIтаратуры, актыўная грамадзянская пазIцыя, якая сыходзIць з традыцый беларускIх класIкаў — ЯнкI Купалы, Алеся Гаруна, МаксIма Гарэцкага.

"Тутэйшыя" спрабуюць аднавIць "Дзяды"- старажытную беларускую традыцыю памIнаньня I шанаваньня продкаў

Таварыства праводзIць вечарыны, сустрэчы з людзьмI, дзе абмяркоўваюцца лIтаратурныя, грамадзка-палIтычныя пытаньня.

У студзенI "Тутэйшыя" ўдзельнIчалI ў ДругIм Вальным Сойме у ВIльнI.

"Тутэйшыя" лIчуць, што трэба аднавIць беларускую нацыянальную сымболIку, вярнуць мове лацIнскI шрыфт, ужыць сваю, гIстарычную, а не польскую, назву нашае сталIцы - Менск.

## ВЕСТКI З БЕЛАРУСI.

ПрэзIдыум Вярхоўнага Савета /Рады/ БССР прыняў указ, якI для "аховы правапарадку I законных правоў грамадзян?!" забараняе карыстаньне незарэгIстраванай сымболIкай, а таксама распаўсюджваньне нефармальных выданьняў якIя не прайшлI нажнIцаў ГлаўлIта /цэнзуры/.

У Доме лIтаратара мIлIцыянты, ў пылу будаваньня прававой дзяржавы, ўзламалI пакой I "канфIскавалI" I0 тысячаў экзэмпляраў "НАВIН" Аказалася, яны "шукалI бомбу" I выпадкова натрапIлI на "падпольную антысавецкую лIтаратуру".

## НА ФРАНТАХ ЛАТВII

Сёньня у ЛатвII складанае становIшча з нацыянальным пытаньнем. Адна з костак раздора — дзяржаўнасьць латыскае мовы.

Народны Фронт ЛатвII лIчыць нацыянальнае самаўсьведамленьне — каштоўнасьцю, якая зьяўляецца важкIм фактарам адраджэньня грамадства. I таму НФЛ гарантыруе нацыянальным меншынствам права на разьвIцьцё Iх культур I пIсьменасьцI на роднай мове, што I адлюстравана ў праграме НФЛ.

Плады, так званага, "двухмоўя" сёньня мы бачым на прыкладзе БеларусI. Дзе большасьць беларусаў ня толькI ня можа, але I не жадае размаўляць на мове сваIх продкаў. За такое ж дзяржаўнае двухмоў'е ў ЛатвII, зараз выступае "Iнтэрфронт".

Навошта гэтае двухмоў'е расейскай бюракратыI — вядома: Iм не хапае розуму вывучыць мову народа на зямлI якога яны жывуць I якIм кIруюць. Навошта гэтае двухмоўе працоўным расейцам, калI карыстаньне сваёй мовай Iм гарантуецца — не вядома. Можа яны прысутнIчаюць на палIтычных шабашах Iнтэрфронту дзеля падтрымкI амбIцый сваIх кроўных братоў/мала што бюракратаў, але сваIх, родных/?

Стварэньне ЛатвIйскага Таварыства Рускай Культуры паказала, што I сярод рускIх ёсьць ня толькI Iнтэрфронтаўцы. "Истинные интернационалисты" ганьбяць "господ из ЛОРКА" прыкладна тымI ж мэтодамI, што I сыцылIйская мафIя сваIх ворагаў — яшчэ б, зараз яны ня могуць весьцI свае прамовы ад Iмя ўсIх расейцаў

НенавIсьць да IнтэлIгенцыI, да дэмакратыI, да ўсяго I ўсIх, што ня ўкладаваецца ў сталIнскую канцэпцыю сацыялIзма — асноўная рыса, якая падкрэсьлIвае агульны дух Iнтэрфронтаўскiх мIтынгаў, мIтынгаў, пасьля якIх з галавы не выходзIць першы куплет дзяржаўнага гIмну СССР.

/працяг са стар.4 /

7. ЗЯЛЕНШЧЫНСКАЯ - КамаржынскI Язэп.
8. ВАЙЦЮЛЕЎСКАЯ - АстроўскI ФэлIцыян.
9. ТАЛОЕЎСКАЯ - КазлоўскI Данат, Габран Люцыя.
10. КУЗЬМIНАЎСКАЯ - Талерка МIкола.
II. ЛУПАНДАЎСКАЯ - ДварэцкI Аўгуст, Кленбэрг МIльда.
I2. КЕЛАЎСКАЯ - МахноўскI Аляксандр, Салаўёва АнтанIна.
I3. ЗАРЭЦКАЯ - ПашкевIч-ЛепIн Гэлена, Дзяргач ВIктар.
I4. КОКIНСКАЯ - КлагIш Язэп.
I5. ДУДЭЛЬСКАЯ - КлагIш Антон.
I6. ДЗЬВIНСКАЯ - Кастылюк Якуб, СвIлэ К., АляксандровIч Канстантын, Фёдарава Марыя, МасальскI Пятро, Альстэр Роза.

### ЛюцынскI павет.

I. ЛЯЎДЭРСКАЯ - ХруцкI Еўстаф, Чэркоўская КлаўдзIя, НIкIфароўская Марыя, Крустынь АлдонIя.
2. ЦУЦУРАЎСКАЯ - Воркуль ЦIмафей, Яўнзэм МелIя.
3. РУДНIНСКАЯ - Захарава Марыя.
4. КАНЕЦПОЛЬСКАЯ - НIкIфароўскI ВасIль, Раман ЗIнаIда.
5. ЦУЦУРКАЎСКАЯ - РуднIкаў ВасIль.
6. ПIТЭРСКАЯ - ЭйгIм Гэлена.
7. ЛУНЕЎСКАЯ - НIкIфароўскI КанстанцIн, НIкIфароўская Марыя.
8. НЯМЕЦКА-ГОРСКАЯ - Еленеўская ФеадосIя,ДалIба АнтанIна.
9. ШУШКАЎСКАЯ - МацыеўскI Сымон, Мацыеўская Кацярына.
10. ЧЫЎЧЫСКАЯ - Лазаронак ВасIль, ПIльвIнская Марыя.
II. ШЫЛАЎСКАЯ - ЗэйглIш Кацярына.
I2. ЗАЛЕСКАЯ - Крэсьцьянцаў ЕўдакIм, ЖукоўскI Пятро.
I3. РУЛЕЎСКАЯ - Брыц СIльвIя, АтлеўнIкаў ЛеанIд.
I4. ЛЮЦЫНСКАЯ - Жданка РаIса, Казека Сяргей, Казека СтэфанIя, Іваноў МIхаIл, ГудлеўскI Аляксей, Чыган ЛIдзIя.

/працяг будзе/

# „Пагоня"

/МаксІм БагдановІч/.

ТолькІ ў сэрцы трывожным пачую
За КраІну радзІмую жах.
Успомню Вострую Браму Сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца конІ,
Рвуцца, ймкнуцца І цяжка хрыпяць;
Старадаўняй ЛІтоўскай ПагонІ
НІ разьбІць, нІ спынІць, нІ стрымаць.

У бязьмежную даль вы лятіце,
А за вамІ, прад вамІ - гады.
Вы за кІм у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхІ Вашы йдуць І куды?

Мо'яны, Беларусь, панясьлІся
За ТваІмІ дзяцьмІ уздагон,
Што забылІ Цябе, адраклІся.
ПрадалІ, І аддалІ ў палон?

БІцце ў сэрцы Іх,- бІцце мячамІ,
Не давайце чужынцамІ быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамІ
Аб радзІмай староньцы балІць...

МацІ родная, МацІ-КраІна,
Ня усьцІшыцца гэтакІ боль!...
Ты прабач, Ты прыймІ свайго сына,
За Цабе яму ўмерцІ дазволь.

# Алесь Гарун

*У чатырохлецце „Н-е Нівы."*

Ты, мой брат, каго зваць Беларусам,
Роднай мовы сваей ні цурайся;
Як ні зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер ні зракайся.
Ад дзядоу і ад прадзеду, браце,
Гэта скарб нам адзін захаваусь,
У селянскай аграбленай хаце
Толькі ен нізабраны астауся.
У старыну Беларус. ні падданы,
Гаспадарыу, быу сам над сабою
І далека у сьвеці быу знаны
За літоускай і ляшской зямлею.
Але час прамінуу. і нядоля
На народ, як бы камень, звалілась,
Беларуская слава і воля
Адыйшла, адцьвіла, закацілась.
Ні зьменяючы шэрай апраткі,
Працавау ты, як вол, гаратліва,
А у хаці тваей нідастаткі,
А на ніве тваей ніурадліва.
А чаму? Ты ні здольны, ці хворы,
Ці благі гаспадар, ці пьяніца?
Мусіць не! Бо і іншым у пору
У цябе гаспадарыць научыцца.
Сьветлы розум твой, брат, але дзетак
Ад цябе, як і усе, адбіралі
І на бацькаускі родны палетак
Працаваць—памагаць ні пушчалі.
Хто хацеу, той і сьмеу рабаваці,
Без прыпросу з'ежджаліся госьці—
Абдзіраць, аб'едаць апіваці
І крышыць гаспадарскія косьці.

Можа б ты і памер і загінуу,
Каб ні вешчая мова Бояна
Хто ж быу, добры, яе хоць пакінуу?
Як жэ так, што яшчэ ні забрана?
Бо што бачылі госцікі-гэрцы
І зямлю, і лясы, і кілімы,—
Усе забралі. А мову у сэрцы.
У сваім сэрцы хавалі-нясьлі мы.
Дык шануй, Беларус, сваю мову—
Гэта скарб нам на вечныя годы;
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас брэцця-народы!



# Сьпяваем Беларускія песьні

## ЛЯВОНІХА

на 2 галасы

*Уіно, Жвава* — Нар. мэл. збор. Равенскага













1. А ЛявонІху Лявон палюбІў,
ЛявонІсе чаравІчкІ купІў.
ЛявонІха душа ласкавая
ЧаравІчкамІ палянскІвала.

2. А ЛявонІха ня жонка была
Ня мытую мне кашульку дала,
Ня мытую, не качаную,
У суседа пазычаную.

3. Як я молада ў матулькІ была
Як вІшанька у садочку цьвІла:
ЦьвІла, цьвІла ды пацьвІтывала,
З малайцамІ ды пагулІвала.

4. Ой, згубІла мяне мамачка мая,
Што за цябе мяне замуж аддала.
Ой, чаму цябе пярун не забІў,
Як ты мяне маладзеньку любІў".


Адрас для лІстоў: 226024, РИГА, ул. Силциема, д. 9, кв. 11. Ивановой Л. П.
Адрас БКТ "СЬВІТАНАК": РИГА, АМАТУ-5.
Старшыня Т-ва-Сяржук Кузняцоў т. 28-85-23.
Нумар падрыхтаваў Вадзім ПаўловІч.